

* * *

Не я пяю—народъ Божы
Даў мнē ў песьни ладъ прыгожы,
Бо на серцу маю путы
Й зъ народамъ ими скуты.
Зъ имъ я злиўся зъ добрай воли,
Чы то ў доли, чы ў недоли.
Чы гдзе горэ абзавецца,
Якъ асина грудзь трясецца.
Чы пра радосць чую вēсьци,
Усё ў грудзь хаваю гдзēсьци.
Мнē гаворыць вёска, хата,
Мнē гаворыць серцэ брата.
Радъ збираю, што пачую,
У грудзи сваёй нашу я,
Ажъ, якъ траўка на кургане,
Яно ўзыйдзе—песьняй стане.

---

## Пагудка.

Зъ песеньками, чытацели, несмела прадъ вами
Зъ добрай воли станоўлюся... Жартами, слезами
Складалося яно-тое, што тутъ на паперы
Писалося ў часъ думки и ў добрай веры.
Чы забавы зъ гэтыхъ песень хоць бы крышку будзе?..
Нехай судзяць братни людзи ды й на братнимъ судзе.
Назбиралась вязаночка на даръ маей браци
Середзь нашыхъ палей, лесоў, середзь сенажаци.
Не для зыску збиралася и не дзеля хвалы.
Такъ—папросту, якъ збираемъ зелье у дзень Купалы.
Не завадзиць по мазоли минутка вясельля.
Я стараўся асцярагчысь паганаго зелья,
А чы гэта ўдалося?.. чы то зелье знаю?
Чы прыгодзенъ даръ малы братамъ у роднымъ краю?..
Думки гэты мучаць душу у вашаго брата,
Кали виненъ—выбачайце!..
Чымъ хата багата!...

---

## Што птушки казали.

Ночъ не спаўшы за гулянкай
На вясельи, сваты—
Пилипъ Окунь зъ Бычкомъ Янкай
Валаклись да хаты.
А было же гэта ў Маи
На ўсходзи сонца.
Салавейка свистаў у гаи
Галасно безъ конца,

И зязюли абзывались
И птушечки малы,
Щебечучи, заливались
Дзеля Божей хвалы.
Блищыць у яснай пазалоци
Зорэнька чырвона,
Закрычали на балоци
Драчы ды варона.
Буркнуў Пилипъ, зубы сцяўшы,
У гутарцы зъ Янамъ:
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
«Заўсимъ дурэнь салавейка,
«Брэше, сынъ сабачы!
«Дай!... дай!... песьня та—капейка!
«Лепшы говоръ драчы:
«—Дзяры!... бяры!... будзешъ есьци
«И мёдъ пици дзбанамъ,
«У худобе и ў чесьци
«Хутко станешъ панамъ!»—
—«Гэта—праўда!... Ось адначе
«Слухай на астатку
«Што варона намъ закраче
«На ўсё гэта, братку?...
«Во!... чы чуешъ?... уже сказали,
«Сеўшы у крыницы:
«Крали!... крали!... крали!... крали!...
«Да й... на—шыбяницы!»

## Стары лясникъ.

«Паночку дарагеньки, дай пораху крышку,
«Кали маешъ увагу на старога Грышку!...
«Отъ лихо наляцело! прышло на астатакъ:
«Найлепшае заўчора зъ нашыхъ жарабятакъ
«Мядзьвѣдзь—падла... ды й кабъ же ваўки яго зъели!
«Задушыўшы у лѣсе, кинуў кале ели!...
«А Боже-жъ мой!... отъ быў бы конь церэзъ два годы,
«А цяперъ што?—ничога акромъ адно шкоды!
«Дай пораху, паночку!»
Такъ стары, чуць жывы.
Прасіў пана даўнейшы за двара мысливы.
—«Штожъ тутъ порахъ паможе?»—
—«Кабъ разъ здохъ маруха.
—«Яго я пачастую за стрэльбы у вуха!» —
—«Чы ты, Грышка, зваръяцеў?»—
—«Не!—дзякаваць Богу!»—
—«Якже-жъ ты на мядзведзя?... Ледзве цягнешъ ногу,
«Якбы ў лихаманцы скачуць табе руки.»—
—«И самъ я гэта знаю... Калижъ плачуць ўнуки,
«Ды й гоманамъ вяликимъ паўна наша хатка.
«Кабъ панъ вѣдаў якое было жарабятка!
«И доўга и шырока и крэпка ў карку,
«Самы гэты конь быў бы намъ у гаспадарку!...
«Ня дарую!... и гаду павыцягну жылы!
«Кабъ ня меў я спакою и середзь магилы.
«Кали будзе безъ кары то насенѣ ўражѣ!!!
«Чы ёнъ мнѣ шкуру злупиць, чы самъ, шельма, ляжѣ!»—
—«Да ты-жъ хиба за стрѣльбай даўно ня меў дзѣла?»—
—«Летъ зъ пятнанцаць, якъ старасць маю силу зъела!»

—«Што-жъ цяперъ ты ўздумаў?—ты-жъ старэй адъ хрэна,
«Страляючы ня ўцэлишъ и ў капу сēна.»
—«Скуль панъ знае?... Адначежъ я личу на гэта,
«Што маруху натраплю пяравесць за свēта.
«Нē глядзи панъ, што гарбомъ мне сагнула спину;
«Вымяркую ў вуха, чы ў лобъ, ў сēредзину!»
—«Да ты хиба сягодня блёкату абъеўся?...
«Куды-жъ розумъ даўнейшы ў цябē падзеўся?...
«Мерышъ силы старые, Богъ зна, якой мерай!»
—«Дай пораху, паночку, бо пайду зъ сякерай!»
—«Ось мы лēпей иначей гэту скончымъ справу:
«На мядзьведзя мы скора устроимъ аблаву...»
—«А, крый Боже! ня трэба, паночку, ня треба!
«Енъ уцече зъ аблавы!... Ня скаштую хлеба,
«Спаць ня буду, пакуль же не забъю маруху,
«Пакуль чёрну на землю ня выпущу юху,
«Пакуль шкуру ў нашай ня развēшу хацē:
«Ось!—гэта для васъ, дзетки, па нашай утрацē.
«Енъ уцёкъ бы зъ аблавы, якъ пиць даць, паночку,
«Да жарабятка прыйдзе на трэцюю ночку,
«А я и прыпилную!!!..»
—«Просто жаль старога!...
«Слухай, Грышка!—кабъ дзетки не плакали многа,
«Дарую жарабятка адъ сивой кабылы!...
«Бяры и успакойся!»
—«Да самой магилы
«Буду Бога за вами прасиць, ясны пане!...
«Кабъ вамъ и вашымъ дзеткамъ даваў панаване
«За вашу для насъ бедныхъ добрую натуру,
«Ды й пану-жъ адъ мядзведзя прывалаку шкуру.»
—«Якто шкуру?—якую?...
—«Ды й зъ яго халеры,

«Жаль бо неки вялики ёў мяне безъ меры,
«Яго я звесьци кляўся, пакляўся на душу...
«Дыкъ и слова прадъ Богомъ стрымаць цяперъ мушу.»
—«Гмъ!... а стрэльбу чы маешъ?»
—«Есцяка у клеци;—
«Ўчора трошки правіў, папсавали дзёци.
«Але стрёлиць—ничога!... я знаю старуху,
«Яще разъ мнё паслужыць!... будзе гадъ безъ духу!»
—«Ты лёпей гэты штуцэръ на! бяры адъ мене!»
—«Не, паночку! ня треба!... кажу на сумлене,
«Не умёю я зъ панскай... лёпей зъ сваей плясну,
«Але будзь панъ спакоенъ!—якъ у свёчку ясну!»
—«Казёлъ ты! большъ ничога!... Усё вы такіе!...
«На порахъ!... ды й няхай же самъ Богъ цябё крые!»
Назаўтра, яще зъ лёсу не ўзглянула сонце,
Панъ праснуўся, падняўся паглядзеў у ваконце;
Глядзь!—а Грышка за стрэльбай сядзиць ўже на ганку.—
«Па мядзведзя да лесу пашли панъ хурманку.»

---

## Каршунъ.

Быў ясны дзень, гарачы дзень
И было циха, хоць сёй макъ.
Скацина забилась у цёнь,
За ёй пастухъ прамежъ сабакъ.
А лёсъ листкомъ ня калыхне,
У гущы птушки сёли спаць,
И рыбки ў рэчечцы на днё,
Подъ кустъ хаваючысь, стаяць.
Духота нёкая висиць,
Нявольны сонъ усихъ бяре,

И тольки каня просиць «пиць!»
Кружась надъ лēсомъ у гарэ.
Я ў поле вышоў. Боже мой!
Красуе жытни колась уже.
Рукой абцёршы лēтни зной
Я сеў на камень пры мяжē.
Любуюсь жыткомъ. Изъ падъ ногъ
Поднялась птушка да гары,
А тутъ каршунъ, а кабъ ёнъ здохъ!
Хопъ! гэту птушку ў кипцюры.
Панёсъ!...
Што гэта мнē за знакъ?
Такую думку думаў я,
Адкуль узяўся гэты птахъ?
Ой, бѣдна-жъ птушечка мая!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На тое-жъ вышло!... на сяло,
Ня знаемъ добра и адкуль?
Жыдка ў томъ часē прынясло,
Маленьки быў и зваўся Сруль.
Хоць невялички той жыдокъ,
За то и хитра-жъ галава!
Адкрыў у вёсцы ёнъ шынокъ
Ды й поля зняў маргоў зо два.
Ось зъ гэтыхъ поръ каторы разъ
Я гэту птушку ўспомяну
Што напрарочыла да насъ
Жыдка, што роўны каршуну

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## Сиверъ.

Эй ты, сиверъ,—ня дзми!... непатрэбенъ ты намъ,
Адъ палудня цяплу зъ табой ходу нима!
Хоць бы разъ безъ цябе зарунецъ бы палямъ,
Хоць бы разъ у свой часъ адышла бы зима!
Устрапянуўся бы духъ у чалавечай грудзи,
Ды й забыли бы мы морэ смутку ды й слёзъ.
Спихни сиверъ хоць разъ, па лясохъ ня гудзи,
На далёкъ акiанъ убяжы ты марозъ!...

---

## Што думае Янка, вязучы дровы у горадъ.

Отъ и свята, отъ каляды,
На марози скрыпяць санки...
Ўси на свѣци святку рады
Ўсюды пѣсьни и гулянки.
Скачуць хлопцы и дзяўчата,
А гарэлки пъюць чы мала?!
Адно слова—ўсюды свята.
Ну! кабыла, чаго стала?!
Чаго стала?!... скажешъ—цяжка,
Ды й ня надтажъ ты и сыта.
А мнѣ-жъ лёгка?..· глядзь, сярмяжка
Стара... рвана... вѣтрамъ шыта...
Стаў крапчей марозъ ка святу,
Ось и зорка заблискала.
Хоць скарэй бы мнѣ ў хату.
Ну! кабыла! чаго стала?!
Дроў у мѣсци многа трэба
И цана-жъ на нихъ сярдзита,

Прадамъ дровы—куплю жыта.
Отъ и лезу зъ цяжкимъ возамъ,
Якъ бяда ў каркъ пагнала
Такимъ лихамъ ды й марозамъ!. .
Ну, кабыла, чаго стала?!
Адагрэцца-бъ у карчомцы,
На дарогу стукнуць чарку...
Дыкъ я виненъ грошы Шлёмцы,
Кабъ ня даў часамъ па карку!
Ой ты, доля!... ў гэту пору,
Якъ мяне ды ты прабрала!...
Ну, кабыла! Ну, на гору!
Кабъ ты здохла, чаго стала?!

---

## Горсць пшаницы.

*(Вольное наследоване Кондратовича).*

Пилипъ стары ў грамадзи
Старшыною быў съ поўвѣка.
Чы ў працы, чы ў радзи
Нямашъ якъ ёнъ чалавѣка.
Щыры, добры и разумны,
Гаспадаръ пры томъ на дзива,
Вёў найлепей сходъ нашъ шумны,
Судзіў, радзіў справядлива.
На ўсю воласць гаспадары
Гутарыли такъ часами:
«Дай Богъ, кабъ нашъ доўга стары
«Старшыною быў надъ нами!»
Тольки Пилипъ ўсё матае
Сваей сивой галавою:

«Ня змагу я, Богъ то знае,
«Быць вамъ, дзѐтки, старшыною.
«Лѐтакъ много мнѐ на карку,
«Стали силы якъ дзицяци,
«Цяжко весьци гаспадарку
«И грамадзки справы знаци.
«Прышла старасць, горбъ на плечы
«Адъ вяликай сѐў натуги;
«Пара, дзѐтки, лечъ на печы,
«Сами сабѐ радзце, други!»
Пашоў гомонъ па ўсѐмъ людзѐ
И ня вымыслимъ ничога,
Якъ яно ўперэдъ будзе
Безъ Пилипа, безъ старога?...
Крыки, сварки были многи.
Отъ—прышли мы вѐскай ўсею.
Пакланились яму ў ноги,
Ды и кажемъ: «Дабрадзею!
«Ня кидай насъ сиратами!
«Яки пень, така галина:
«Якъ не можешъ правиць нами,
«То, будзь ласкаў, дай намъ сына!»
—«А катораго?»—«Ня знаемъ;
«Ты самъ дзѐтокъ пазнаў боле.
«Каго, старымъ абычаемъ,
«Па сваей намъ радзишъ волѐ?»
—«За чесць дзякуй, гаспадары,
«И за ласку, и за вѐру!...
«Сыны маи—не нязда́ры,
«Знаюпь праўду, знаюць мѐру,
«Але, Богамъ и сумленемъ.
«Хто-жъ ихъ знае, щто за людзи.

«Мы надъ новымъ пакаленемъ,
«Щыра кажучы,—ня судзи.
«Трудна сказаць дзёткамъ, ўнуку:
«Выбирай дарогу гэту!...
«Отъ, сынкоў я на науку
«Усихъ трохъ пущу па свёту:
«Няхай свётъ пабачуць ясны,
«Што тамъ права, што тамъ крыва,
«Кабъ свой кутъ радзимы, ўласны
«Распазнали справедлива.
«А якъ звернуцца ў хату,
«Мы пабачымъ той парою,
«Быць катораму зъ ихъ брату
«Надъ грамадай старшыною »
—«Добра!» кажемъ. Пашли скора
Андрэй зъ Янкай на вицину,
А наймeншаго Грыгора
Паслаў Пилипъ ў Украину.
Отъ Андрэй прышоў у хату,
Ня пазнали, такъ адзеты,
—«Кепска ў насъ ходзяць, тату!
«Злы мужыцки звычай гэты:
«Ўси чорны, ўси брыдки,
«Закарэли адъ работы!
«Лепей кинемъ нашы свитки,
«Нашы лапци, нашы боты,
«И, якъ нёмцы зъ за границы,
«Возьмемъ куртки пекны, сини!
«Дзёўки! хустки и спадницы
«Я для васъ прывезъ у скрыни!»
Стары Пилипъ у куточку
Адно круциць галавою.

—«Брэшешъ, каже, ты сыночку,
«Ня быць табѣ старшыною!»
Прышоў дамоў срэдни, Янка.
Папаў якъ разъ на вяселле:
У сусѣда ихъ гулянка,
Вяликъ гомонъ и пахмѣлле;
Стары, малы—ўси ў танѣ,
Ажъ дрыжыць старая хатка.
—«Ты чаму ня скачешъ, Яне?»
—«Брыдка ў насъ скачуць, татка!
«Калибъ тольки захацѣли,
«Научыў бы, добра знаю,
«Скакаць вальцы и кадрэли,
«Якъ у томъ танцуюць краю.»
Пашоў Пилипъ у куточекъ,
Сѣў и круцицъ галавой.
—«Брэшешъ, каже, ты сыночекъ,
«Ня быць табѣ старшыной!»
Прышоў Грыгоръ. Абнимае
Бацьку, матку, сестры, браты,
Зъ кимъ нацѣшыцца-ня знае,
Гдзѣ прыткнуцца середъ хаты.
—«Пекна, каже, Украина:
«Тамъ цяплѣе свѣцицъ сонцэ,
«Якъ кинь вокамъ—усѣ раўнина,
«Стэпъ на ўсей залѣгъ старонцэ.
«Добра тамъ, а тольки—нуды
«Па радной зямлицы нашай.
«Нашу вѣску сніў я ўсюды
«Зъляскомъ, зъ рэчкай, зъ полемъ, зъ пашай;
«Адно, што тамъ завистна—глеба!
«Якъ той вуголь усюды чорна!

«Боже милы, што тамъ хлеба!
«Уражай яки тамъ спорны!
«Сивы волы шесцярнёй
«Аручы, валочаць плуги,
«Ну, и родзиць!—Тамъ парой
«Уси калосься, якбы пуги.
«Я прывёзъ, дасць Богъ, ня дарамъ,
«Цэлы мехъ аттуль пшанпцы;
«Дамъ па горсци гаспадарамъ,
«Може зъ нашай Богъ зямлицы
«Насъ надзёлиць уражаемъ,
«Якъ на гэтай Украине!?»
Пилипъ сказаў: «Цяперъ знаемъ:
«Старшыною будзешъ, сыне!
«Зъ дурня—глупая навина,
«Щырай праўды ани знаку.
«Каму свитка славянина
«Ня прыходзицца да смаку,
«Хто нашъ звычай, чы игрыще
«На пасмешыще падыме,
«Што-жъ зъ яго край родны зыще?!
«Што-жъ зъ пустой калиты выне?!
«А хто серцэмъ, душой рады,
«Да своихъ прыльнуцца скоры,
«Той намъ братъ! Будзь надъ грамадой
«Старшыною ты, Грыгоры!»

---

## Буселъ.

Зимка надходзиць, звисли туманы
И вецеръ круцицъ и свище.

На небе—цёмныхъ хмаръ караваны.
Буселъ узняўся и задуманы
Паплыў павольне на ржыще.
Сёў и клякоче, подняўшы ногу,
Ды й жмурыць цёмнае вока.
Пэўне ёнъ думку ўздумаў глыбока
Ужо выбирацца ў дарогу.
—«Добра на вырай ляцець цяплейшы,
«Пабачыць дзивы ў чужбине,
«Сонца надъ Ниламъ агонь яснейшы,
«И думаць думку пра край тутэйшы
«На пирамиды вяршынё.
«А тольки... тольки ведама Богу,
«Чы смерць у дарозе абмину!...
«Побачу-же Нёманъ и азерыну?!...
«Сяду-жъ на купцы мурогу?!...
«Яжъ тутъ радзиўся, гдзе гэта хатка,
«Щасця знаў дзеньки ня рэдки:
«Ось—тутъ, гдзе выгонъ и сенажатка,
«Бывала, косиць касцоў грамадка,
«Клякочуць жонка и дзетки.
«Добра-жъ тутъ была!... Цяперъ ня знаю,
«Чы не заплачу па згубе!
«Чы, прыляцеўшы вясной зъ выраю,
«Гняздо застану на дубе!
«Радъ бы застаўся ў гэтай старонцы,
«Гдзе страхъ ня страшыць ни горэ,
«А тольки болей ня грэе сонцэ,
«Ды й няма корму дзеткамъ ни жонцэ,
«Снегъ тутъ насыпле ускорэ.»
Такъ пажурыўшысь думкаю щырай,
Буселъ узняўся паволи,

Паплыў па небе кудысь на вырай
Шукаць и щасця и доли.

---

## Ямщыкъ.

И пъюць и гуляюць—чаму-жъ у забави
Адзинъ ты якъ ворагъ ў няволи?
На чарку!—закурымъ, садзися на лави,
Скажи намъ прычыну нядоли.
Ни кони, ни санки, ни красны дзяўчата
Цябе не пацешаць ни мала,
Два летка мы видзимъ, чы будни, чы свята
Што ты не таки, якъ бывала.
— «Ой, цяжка! ой, горка!—душа мая млее,
«И светъ бы пакинуць ня шкода,
«Дай чарку!—пры чарцы мне будзе смялее...
«Паслухай,—якая прыгода:
«Прыстаў я на почту, звычайне—блазнота,
«Хоць быў и силенъ и ахвочы.
«На почци—самъ знаешъ—дзень целы работа,
«Ня видзишъ ни свята, ни ночы.
«Адъ ранка да ночки, адъ ночки да ранка
«Вазіў я пакеты и паны.
«Папаў залатоўку,—тады и гулянка
«И сытъ, и вясёлы и пъяны.
«Звадзіў я дзяўчата, друзей меў безъ щоту,
«Самъ писаръ быў роўны и квита!
«А кони-жъ!—якъ крыкну на нихъ на ахвоту
«Дзяруць маи сіўки зъ капыта!
«Вясёлы быў хлопецъ и зухъ у гуляни,
«Казисты ўсякой дзяўчыне.

«Паничъ зъ табой едзе, надхопишъ дзе паню,
«Двазлотка николи ня мине.
«А тольки самъ щыра любіў я дзяўчыну:
«Жыла тутъ у вёсцы пры поли,
«Яе я бывала, якъ еду, ня мину,
«Кабъ мима праехаць!—николи!
«Отъ писаръ разъ кликнуў яще да разсвета;
«Схапіўся, адзеўся, гатовы.
«Завея—крый Боже! ня видна бачъ света,
«Марозна и сиверъ здаровы.
—«Вези аштахвету!»—«А кабъ ты згарэла!»
«Буркнуў я падъ носамъ, сярдуя,
«Каня акульбачыў и скора и смела
«На сіўцы па тракци сяку я.
«Якъ жыў я, ня видзеў такой, бачъ, мяцели:
«Ня видна дароги ни света.
«Отъ зъ сіўкай дзве вёрсты мы такъ праляцели,
«Слупъ трэци минаемъ... што гэта?!...
«Хтось стогне ў поли, на помочъ скликае:
«Зблудзіўся нейначей ў дарози.
«Падумаў: падскочу—хтось тамъ пропадае
«Ў завеи на лютамъ марози.
«Каня павяртаю, а чортъ мне на вуха:
«Куды ты?...» ўсё шепче на згубу,
«Спяшы!... часъ нагнаўшы, пабачышъ дзявуху,
«Сваю паралеску и любу!»—
«И стала мне страшна, ажъ дыбамъ стаў воласъ,
«Па плечахъ пабегли мурашки...
«Каня запинаю, хоць каже мне голасъ,
«Што гэта грэхъ будзе, грэхъ цяжки...
«Отъ зъездзіў, звяртаюсь. Прыцихла и днее,
«Страхъ неки ўсё мучыць укрыты,

«Такъ цяжка мне стала, ажъ лобъ мой пацее,
«А грудзь—званочекъ разбиты.
«Отъ конь мой спужаўся, наежыў, бачъ, грыву,
«Храпе подхватае да бегу...
«Глядзь! вижу ляжачу кабету няжыву
«Пры самай дарози ў снегу
«Злезъ... ближей падхожу... и снегу ей зъ карку
«Палой адкинуў я груду...
«Пазнаў!... моцны Боже!... Дай чаркv!... дай чарку...
«Казаць больш ничога ня буду.»

---

## Надто салодкія думки.

Пакуль доля намъ засвеци,
Надто-жъ яно мила
Думаць думки и, якъ дзеци,
Пущаць пузыръ зъ мыла.
Верце людзи: щасце будзе,
Такъ, якъ пчолкамъ ўули!...
Лезь на грушку, рви пятрушку,
Пакаштуй цыбули!...
Хоць галоўка на грудзь висне
И апали руки,
Хоць намъ серцэ часамъ сцисне
Цяжки ланцугъ муки,
Крычу смела: «щто за дзела!»
Кабъ усе пачули...
Лезь на грушку, рви пятрушку,
Пакаштуй цыбули!...
Наша доля гдзесь у яры
Чы у воўчымъ доле.

Громъ грахоче, плывуць хмары,
Градъ пабіў намъ поле.
Ня пужайся!—спадзевайся...
Кукуе зязюля:
Лезь на грушку, рви пятрушку,
Салодка цыбуля!
Такъ найлепей жыць на свеце
Зъ думкой гдзесь у небе,
Хоць и пусто ў калице
Мякина ў хлебе
Такимъ шлякамъ ляциць птакамъ
Шыбка мысль, якъ куля:
Лезь на грушку, рви пятрушку,
Салодка цыбуля!
Гани, гани думку пусту!
Будуй зъ лёду плоты.
Трэба зкиснуць на капусту
Безъ такой работы.
Спи!—а мары згоняць хмары,
Отъ—абы заснули!
Лезь на грушку, рви пятрушку,
Пакаштуй цыбули.
Ўсюды ўзыйдзе збожа коласъ,
Зажывемъ богата!
Ўсюды счасця слыхаць голасъ,
Братъ ня крыўдзиць брата.
Срэдзь громады ўси рады,
Добры весци чули...
Лезь на грушку, рви пятрушку,
Пакаштуй цыбули!
Той ня будзе пры ахвоци
И веселъ, якъ трэба,

Хто неўмее на балоци
Знайсци боханъ хлеба,
Зъ адной нитки ткаць дзве свитки
Чатыры кашули.
Лезь на грушку, рви пятрушку,
Пакаштуй цыбули.



# СПИСЪ РЭЧЫ.



Наследованя и пераклады:





*Литературно-художественное издание*

**Янка Лучина**

(Неслуховский Иван Люцианович)

**ВЯЗАНКА**

Стихи, наследования, переводы

Факсимильное издание

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Янка Лучына**

(Неслухоўскі Іван Люцыянавіч)

**ВЯЗАНКА**

Вершы, наследаванні, пераклады

Факсімільнае выданне

Выданне падрыхтавана па экземпляру, які захоўваецца
ў Барыса Сачанкі

Адказныя за выпуск Л. Я. Прагін і Г. С. Шупенька

ІБ № 4031. Падп. да друку 03.01.92. Фармат $80 \times 100^1/_{32}$. Папера друк. № 2. Ум. друк. арк. 1,08. Ул.-выд. арк. 0,91. Тыраж 2200 экз. Зак 1911. Цана 1 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

$$Л \frac{4702120100-038}{М\ 302(03)-92} БЗ\ 235-91$$

ISBN 5-340-01268-9



Янка Лучына (Неслухоўскі Іван Люцыянавіч, 6.VII.1851 – 16.VII.1897), пражыў на свеце 46 гадоў, а так і не дачакаўся ніводнай сваёй кнігі – ні на польскай, ні на рускай, ні тым больш на беларускай мове. І тым не менш месца яго ў гісторыі нашай літаратуры даволі прыкметнае.

Ужо яго псеўданім падкрэсліваў ягонае вельмі ж няпростае ў той час вяртанне да мовы свайго народа праз іншамоўныя традыцыі, што панавалі ў нас у канцы XIX стагоддзя. Ён, як і Ян Баршчэўскі, Ян Чачот, Уладзіслаў Сыракомля, Вінцэсь Каратынскі пісаў пераважна па-польску. Беларускае слова тады амаль не мела ніякай мажлівасці абаперціся на друкарскі станок. Малюсенькія струменьчыкі беларускага прафесійна-мастацкага слова, што зноў, праз некалькі стагоддзяў,у пачатку XIX,пачалі прабівацца праз польскую і рускую плынь, не змаглі адолець дзяржаўных цэнзурных гацяў. Яны ўліваліся ў бессмяротную раку вуснай народнай творчасці.

Ніводнага твора па-беларуску не маглі апублікаваць ні Альберт Абуховіч, ні Фелікс Тапчэўскі, ні Адам Гурыновіч.

І Іван Неслухоўскі дэбютаваў у 1886 годзе вершам на рускай мове («Не ради славы иль расчета» ў першым нумары «Минского вестника»). Як паэт-дэмакрат засведчыў ён сябе ў тым жа годзе і вершам на польскай мове «Раскоша натхнення». Патрэба выявіць сябе па-беларуску нечакана-выбухова ўзнікла ў 1887 годзе, калі ён пачуў выступленне на Беларусі ўкраінскіх артыстаў, якіх ён адважыўся вітаць ад імя беларускага народа па-беларуску.

Братцы, сястрыцы! — праўды нясыта
Маці-Зямліца! Ой! не забыта
Роднага слова святая сіла!..—

вырываецца з яго грудзей здзіўлены і радасны вокліч у ягоным першым беларускім вершы «Усёй трупе дабрадзея Старыцкага беларускае слова». Але і гэты верш, і адначасны верш «Дабрадзею артысту Манько» ён так і не апублікаваў. Як беларускі паэт ён дэбютаваў у 1889 годзе вершам «Вясковай парой».

Іх, беларускіх вершаў, не так і многа напісалася, але кожны з нас, каму хоць крышачку дорага роднае слова, са школьных гадоў не забудзе «Што думае Янка, везучы дровы ў горад»...

Толькі праз шэсць гадоў пасля яго смерці ўдзячныя нашчадкі выпусцілі ў свет яго невялічкую «Вязанку».

Праз дзевяноста гадоў факсімільнае перавыданне гэтай вонкава несамавітай кніжачкі навочна паказвае, якіх велічных абсягаў дасягнула наша літаратура за нейкія сто далёка не надта спрыяльных гадоў.

Як сказаў ужо ў першым сваім беларускім вершы Янка Лучына — «Не згіне песня...»